Гарадская грамадска-палітычная газета

# Бабруйскае жыццё

Выдаецца з лістапада 1918 года

## ПАДПІСКА-2000

***Працягваецца падпіска на "Бабруйскае жыццё". Падпісная цана: на 6 месяцаў – 2.556 рублёў; на 3 месяцы – 1.278 рублёў; на 1 месяц – 426 рублёў. Той, хто падпішацца на "БЖ" на 6 месяцаў мае права на 2 бясплатныя аб'явы, на 3 месяцы – на 1 аб'яву. Для ведамстваў паўгадавы абанемент абыйдзецца ў 4.584 рублі, квартальны – 2.292 рублі, месячны – 764 рублі.***

№89 (15993) АЎТОРАК, 13 чэрвеня 2000 года. Цана 25 руб.

**ВЕСТКІ З АДНАГО ПРАДПРЫЕМСТВА**

## Ёсць чаму павучыцца

На базе Бабруйскага вучэбна-вытворчага ўнітарнага грамадскага аб'яднання Беларускага таварыства глухіх прайшоў рэспубліканскі семінар. У ім прынялі ўдзел кіраўнікі і спецыялісты прадпрыемстваў галіны з многіх гарадоў нашай краіны. На працягу трох дзён яго ўдзельнікі абмяняліся вопытам работы па ўкараненню новай тэхнікі, удасканаленню тэхнічнага прагрэсу ў развіцці вытворчасці, маркетынгавых даследаваннях, асваенню новых відаў прадукцыі і тэхналогіі.

У час правядзення семінара прысутныя азнаёміліся з работай унікальнага сучаснага абсталявання, якога за апошнія чатыры гады ўстаноўлена 26 адзінак, што дазволіла асвоіць 104 назвы складаных вырабаў. Зазначу, што ў ходзе іх асваення былі ўкаранёны 43 рацыяналізатарскія прапановы з эканамічным эфектам у 12 мільёнаў рублёў.

## Будзе свой цэнтр культуры

На прадпрыемстве ёсць свой клуб, але ён знаходзіцца ў аварыйным стане. У выніку калектыў не мае магчымасці ладзіць зносіны ў сваім асяроддзі, што важна для гэтай катэгорыі людзей. Ды і ўдзельнікі розных гурткоў – танцавальнага, драматычнага, клубаў "Гаспадыня", "Пенсіянер" вымушаны займацца ў непрыстасаваных памяшканнях.

Даведаўшыся, што побач з прадпрыемствам па вуліцы Карла Маркса пустуе будынак, дырэкцыя звярнулася да гарадской улады з просьбай аб яго продажу. І хаця знайшліся іншыя пакупнікі, улада ўлічыла просьбу калектыву, дала "дабро" на продаж будынка па недарагой цане.

## Адпачнуць работнікі і іх дзеці

Вельмі важна хаця б месяц у годзе пабыць чалавеку, асабліва дзіцяці, у экалагічна чыстым асяроддзі, атрымаць аздараўленне, паўнацэннае харчаванне. Гэта рэкамендацыя медыкаў выкарыстана ў адным з пунктаў калектыўнай дамовы. І не толькі гэты пункт. У калектыве праяўляюць шмат клопатаў аб сваіх работніках.

Так, толькі летась за кошт сродкаў прадпрыемства і сацыяльнага страхавання ў санаторыях "Нарач", "Бярэсце", "Трускавец", "Азёрны", "Беларусь" папраўілі сваё здароўе 79 чалавек – кожны шосты работнік таварыства.

Не забыты і дзеці. У аздараўленчым лагеры летась адпачылі 34 дзіцяці. А з пачатку бягучага года ў санаторыях нашай краіны і ў Сочы папраўілі сваё здароўе 20 работнікаў. Для дзяцей ужо набыты пуцёўкі ў аздараўленчы лагер "Мара", што на беразе Бярэзіны. Дадам, што работнік аплочвае ўсяго 5 працэнтаў кошту пуцёўкі. Астатнія выдаткі бярэ на сябе калектыў.

## Садзейнічае і спаборніцтва

Тармазныя шлангі, люстэркі і дробныя камплектуючыя вырабы для аўтамабіляў, радыятарныя пробкі, электрапатроны, швейныя вырабы, лазапляценне. Вось далёка не поўны пералік прадукцыі, якая выпускаецца зараз на прадпрыемстве. Калектыў таварыства змог дабіцца добрых вытворчых паказчыкаў. Сведчаннем гэтаму з'яўляецца прысуджэнне першага месца, Пераходнага Чырвонага сцяга і грашовай прэміі за перамогу ў спаборніцтве сярод прадпрыемстваў галіны па выніках работы за мінулы год і трэцяга месца ў нашым горадзе.

Стабільнасць у рабоце назіраецца і сёлета. Заданне па вытворчасці таварнай прадукцыі за чатыры месяцы выканана на 110 працэнтаў. Гэтаму поспеху ў многім садзейнічае і наладжанае спаборніцтва сярод участкаў, брыгад, а таксама індывідуальнае за званне "Лепшы па прафесіі". Раз у паўгода прысвойваюцца званні "Лепшы спецыяліст", "Выдатнік якасці", "Лепшы рацыяналізатар". Пераможцам уручаюцца ганаровыя вымпелы, ганаровыя граматы, прэміі, яны заносяцца ў Кнігу пашаны прадпрыемства. Так, па выніках спаборніцтва за другую палавіну мінулага года пераможцамі выйшлі аўтаматчык Д. Корзун, слесар У. Шапавалаў, інжынеры Р. Заблоцкая, Л. Міронава, штампоўшчык М. Казленка, апрацоўшчык Я. Серыкава, майстар К. Літвінава і іншыя.

**М. МАЦВЯЁНАК,**
**грамадскі карэспандэнт "БЖ".**

# ЯКІМ БУДЗЕ ЛЕТА?

Вельмі ўжо няўстойлівым выдалася сёлета надвор'е ў маі і пачатку чэрвеня: то спякота без адзінага дажджу, то холадна так, што трэба апранаць світэр або куртку. Асабліва шмат непрыемнасцей прынеслі спякота і халады працаўнікам вёскі і дачнікам (хаця якія яны там дачнікі – працуюць не разгібаючы спіны!). Людзі трывожацца: ці будзем мы са збожжам, бульбай, гароднінай і садавінай.

У пэўнай ступені адказ на пытанне, якім будзе лета бягучага года дае прагнозны артыкул у штотыднёвіку "Аргументы и факты", які пераказваем з некаторымі скарачэннямі.

Аўтар артыкула Ілля Прэрыеў адразу супакойвае, што ні халоднага лета 1998 года, ні спякотнага 1999 -га на гэты раз не прадбачыцца. Усяго будзе ў меру – і сонца, і дажджоў. Але сіноптыкі не ўтойваюць, што ў цэлым клімат у Беларусі становіцца з кожным годам гарачэйшым. Так ужо не раз бывала ў XX стагоддзі. Чарговы віток пацяплення нам, жыхарам сярэдніх шыротаў, зусім не на карысць: у арганізме парушаецца водны абмен, узнікае хранічнае пераатамленне, узрастае верагоднасць атрымання сонечных апёкаў, якія вядуць да цяжкіх паражэнняў скуры.

Па прагнозах сіноптыкаў войскаў ПВА, першы месяц лета абяцае прайсці роўна, гладка, без асаблівых эксцэсаў. З 10 чэрвеня можна ўжо проста жыць па раскладу: днём тэмпература будзе да 30 градусаў, ноччу – нязначна хістацца ў межах 13-15 градусаў, а дажджы калі і будуць ісці, то таксама пасля заходу сонца і не часцей аднаго раза ў тры дні. Гэтай ідыліі прыйдзе канец акурат у пачатку ліпеня, калі на два тыдні зарадзяць суцэльныя дажджы і тэмпература паветра рэзка пойдзе на спад, упаўшы амаль да 14 градусаў. Такім чынам, гэтым летам беларускія чэрвень і ліпень быццам памяняюцца месцамі, надвор'ем і графікам тэмператур.

Ліпень наогул будзе спрыяць хутчэй сельскагаспадарчым культурам, чым адпускнікам. Тэмпература паветра хаця і некалькі ўзнімецца да трэцяга тыдня, але не перавысіць 18 градусаў днём і 16 – ноччу. І ўсё гэта на фоне амаль штодзённых ападкаў. Калі прыгадаць мінулагоднюю засуху і неўраджай, то скардзіцца на лёс быццам бы грэшна.

Як бы то ні было, аматары пляжнага валейбола і водных веласіпедаў будуць спаўна ўзнагароджаны і жніўні, калі на тэрыторыі Беларусі запануе сапраўднае курортнае надвор'е. Пакуль на карце прагнозаў не бачна ні воблачка – толькі сонца і спякота. Да сярэдзіны месяца тэмпература падскоча да 30 градусаў, што, зразумела, для арганізма ў нашых шыротах цяжкавата. Але ўжо да чацвёртага тыдня начаваць на балконах стане небяспечна – як-ніяк менш 10 градусаў па Цэльсію. А потым прыйдзе і верасень да сваімі працяглымі дажджамі...

Мы прывыклі абвінавачваць родны клімат ва ўсіх грахах: маўляў, ні табе талковай зімы, ні нармальнага лета – адно вялікае міжсезонне з граззю па калена і парасонам у руках. Аднак афіцыйна Беларусь уваходзіць у зону найбольш спрыяльнага клімату, дзе тэмпература цела апранутага чалавека хістаецца ў межах нормы – не ніжэй 29, але і не вышэй 34,5 градуса.

Ну, а наколькі дакладны гэты прагноз надвор'я пакажа само жыццё. Як кажуць, пажывем – убачым.

**Падрыхтаваў і пераклаў публікацыю Г. ЯФІМАЎ.**

Ф. РД-1

**АБАНЕМЕНТ на** газету / часопіс **64100** (індэкс выдання)

"Бабруйскае жыццё"
(назва выдання)

На **2000** год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды
(паштовы індэкс) (адрас)

Каму
(прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|
| | | |

на газету / часопіс **64100** (індэкс выдання)

"Бабруйскае жыццё"
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | руб. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | |

На **2000** год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды
(паштовы індэкс)
(адрас)

Каму
(прозвішча, ініцыялы)

## НАЦЫЯНАЛЬНАМУ КНІГАВЫДАННЮ – ДЗЯРЖАЎНУЮ ПАДТРЫМКУ

Падтрымаць нацыянальнае кнігавыданне прызначаны Указ Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі "Аб некаторых мерах па забеспячэнню насельніцтва рэспублікі кніжнай прадукцыяй, звязанай з адукацыяй, навукай, культурай, і аб дзяржаўнай падтрымцы нацыянальнага кнігавыдання ў 2000 - 2001 гадах". Згодна з гэтым дакументам, да 1 студзеня 2002 года ад платы падатку на прыбытак вызваляюцца камерцыйныя арганізацыі, якія выдаюць і распаўсюджваюць кніжную прадукцыю, звязаную з адукацыяй, навукай і культурай. Не прыйдзецца ім плаціць і падатак на дабаўленую вартасць пры рэалізацыі гэтай жа прадукцыі, уключаючы знешнегандлёвыя аперацыі, а таксама рэнтавы збор пры ажыццяўленні знешнегандлёвых аперацый з такой кніжнай прадукцыяй. Падатак на дабаўленую вартасць не будзе брацца і з арганізацый дзяржаўнай формы ўласнасці, якія ажыццяўляюць выдавецкую дзейнасць, пры увозе імі на тэрыторыю рэспублікі паліграфічнага абсталявання, камплектуючых і запасных частак.

***По сводкам службы "02"***

### ГРАБЁЖ НА РЫНКЕ

6 июня около шести часов вечера трое неизвестных на рынке ограбили и избили бобруйчанина Г. Сотрудниками милиции был задержан один из нападавших - ранее судимый Х. Личности остальных грабителей устанавливаются.

### ОБНАРУЖЕН ПИСТОЛЕТ

Милиционерами патрульной службы 7 июня на ул. Минской был задержан в пьяном виде рабочий АО "Фандок" Е., недавно освободившийся из мест заключения. У него при досмотре в кармане брюк был обнаружен самодельный пистолет. Назначена криминалистическая экспертиза и решается вопрос о возбуждении уголовного дела.

### НАСИЛЬНИКИ ОТВЕТЯТ ПО ЗАСЛУГАМ

Вечером 6 июня трое молодых людей, угрожая ножом, изнасиловали троих учениц 7 и 8 класса. 7 июня преступники были задержаны. Двое из задержанных были ранее судимы.

### "МАСКАРАД" ОТМЕНЯЕТСЯ

Как родному обрадовались пассажиры автомашины ВАЗ-2103 сотруднику милиции, когда тот 9 июня остановил машину на ул. Ванцетти. Однако, после досмотра автомашины, настроение у пассажиров резко изменилось.

И на то были причины. Как оказалось, в салоне автомашины лежал заряженный обрез охотничьего двуствольного ружья, патроны к нему, самодельный 290-миллиметровый нож, железная труба, завернутая в простынь, перчатки и матерчатые шапочки с прорезями для глаз.

На какой "маскарад" с этим багажом ехали четверо судимых бобруйчан, из которых один был уже дважды судим за грабёж, предстоит выяснить бобруйским сыщикам. А УВД Бобруйского горисполкома обращается ко всем гражданам, кто имеет какие-либо сведения о преступлениях совершенных задержанными просим сообщить по телефону милиции 02, либо на автоответчик по телефону доверия 58-02-02. Анонимность гарантируется.

**Подготовил Ю.АРХИПОВ**

Валерий ЗИНОВСКИЙ

# СЕМЬ КРУГОВ ИМПЕРИИ БЮРОКРАТИЗМА,

## или КАК ВАМ ЖИВЕТСЯ, АКАКИЙ АКАКИЕВИЧ?

1

Помните, у Николая Васильевича Гоголя в его бессмертной "Шинели": "Акакий Акакиевич так и обмер, пошатнулся, затрясся всем телом... А значительное лицо довольный тем, что эффект превзошел ожидание, совершенно упоенный мыслью, что слово его может лишить даже чувств человека... Как сошел с лестницы, как вышел на улицу, ничего уж этого не помнил Акакий Акакиевич. В жизнь свою он не был еще так сильно распечен генералом..."

Бедный и бесправный маленький человечек в кругу больших столоначальников.

Ноль среди пузатых единиц...

А кто из нас, сегодняшних просителей присутственных мест, не превращается по воле бюрократов в таких же Акакиев Акакиевичей, сталкиваясь при решении своих проблем с грозными столоначальниками.

Чтобы не быть голословным, решил на себе поставить эксперимент в модном когда-то среди газетчиков стиле: "Журналист меняет профессию". Точнее, не решил, а жизнь заставила. Мне нужно было всего-то на всего подключить электрический счетчик по разделу в доме, который полвека назад построили мои родители, и в котором, конечно же, все это время электросчетчик, исправно накручивал "спаленные" киловатт-часы.

И началось то, что в народе называют обиванием порогов, хождением по мукам от столоначальника к столоначальнику.

Каждый нормальный гражданин, впервые столкнувшийся с проблемой, испытывает нужду в простой консультации специалиста: с чего начать и что нужно сделать, где и какую справку взять, чтобы решить свой вопрос. Так как в большинстве случаев простые граждане не знают, да и не должны знать куда им следует обращаться. В моем случае с электросчетчиком, то ли к соседу-электрику, то ли в государственные организации. Но какие?

Скажу сразу, сосед сделает и быстрее, и дешевле, и с гарантией, и с последующим техобслуживанием. Беда только, что все это будет незаконно.

Вот и я пришел на ул. Комсомольскую в инспекцию энергонадзора узнать какие справки брать, сколько и кому платить за "правые" и "левые" услуги.

Незванного, встретили меня две женщины совершенно противоположной натуры, словно взятые из чеховского рассказа о коллежском асессоре и тайном советнике. Одна — непробиваемо флегматичная, другая – настоящий холерик по темпераменту. Вернее, встретила одна из них, и, поинтересовавшись, что мне нужно и где живу, сразу обрубила:

— Не мой участок, ждите своего инспектора.

Ждать пришлось долго. А в кабинет время от времени заглядывали какие-то мужчины и женщины, что-то выясняя у флегматичной столоначальницы. А я все ждал, ждал.

Вдруг моя визави поинтересовалась: почему это я не дал знать о себе одной из женщин, заглянувшей ранее. Оказывается, это и была она, моя долгожданная инспектор, которую, к моему стыду, я должен был бы узнать, но не узнал. А раз так, то ждать ее придется и дальше, но уже в коридоре.

Вскоре выяснилось, моя инспектор в соседнем кабинете "потеет" над отчетом. Дело нужное, никто не спорит, но зачем же лично перед ней ни в чем неповинного просителя гнать и "футболить" по кабинетам, отсылать до другого раза, вместо того, чтобы в пять минут решить его дело?

Именно в пять минут, потому что женщины, наигравшись как кошка с мышкой, уступили меня мужчине -инспектору, в десяти словах объяснившему какие именно справки и где взять.

Вот так наши рядовые чиновники из пустячного дела, словно Копперфильд из воздуха, создают непреодолимую проблему, решить которую можно или обиванием порогов или через подношения и мзду.

А фамилий моих "футболистов" не называю по той причине, что главными в сегодняшнем всевластии бюрократии являются все-таки не они, а система, в которой справка правит бал, в которой серой бумажке с печатью веры больше, чем человеку, в которой рядовые чиновники-исполнители, как и сами просители, зажаты в угол бумажной лавиной.

Правда, все-таки не всех испортила бумажка. Лично я со своим счетчиком стучался и в двери техотдела Бобруйских электрических сетей, и в Центр стандартизации и метрологии и принимали меня там как и должно – без отфутболивания, грубости и высказывания явного неудовольствия по поводу существования на этом свете меня и моей проблемы.

При следующей встрече "родная" инспектор, едва взглянув на собранные документы, скривилась: "Обязательно сегодня?" Но потом все же назначила день и время "свидания", чтобы съездить в мой отчий дом и провести "рекогносцировку" на местности.

Оказалось, полученная в первый визит консультация была не полной. И я, не до конца "просвещенный", оказался без вины виноватым, и, сам того не желая, не выполнил кое-какие предписания из руководящих инструкций. Сами понимаете, пришлось переделывать и по новой привозить своего инспектора на дом.

А между тем дни шли за днями своим чередом, и мои друзья и коллеги, посвященные в великую тайну "саги о счетчике" уже с сарказмом при каждой новой встрече интересовались моим делом. А под конец даже начали как на тотализаторе ставить ставки к какому числу закрутится злополучный счетчик.

Но мои коллеги тоже люди, им также приходится сталкиваться со сладкими улыбками и хмурыми бровями столоначальников. Поэтому они не только посмеивались надо мной, но в утешение рассказывали и свои истории.

### ИСТОРИЯ ПЕРВАЯ,

пережитая приятелем, "приписанным" к ЖЭУ-2. Она касается проблемы, с которой уже столкнулся или столкнется в ближайшие месяцы каждый из нас – обмена паспортов.

И так, купив, как и положено, необходимые бланки, мой коллега направился в ЖЭУ, чтобы надлежащим образом все заполнить. Наивный человек. Он думал, его там ждут. Ничего подобного. Ни он, ни десяток других, желающих поменять "свою краснокожую паспортину" тут были не нужны. Он это понял сразу же, увидев огромную толпу в коридоре ЖЭУ и, прикрепленный на стене, один единственный образец заполнения бланков.

2

Увертываясь от толчков толпы в спину и пробалансировав на одной ноге, так как на колене другой пытался правильно заполнить все графы документа, коллега, дождавшись своей очереди, просунул бумаги в окошко паспортистки.

Но рано он радовался. Поставленная не там запятая, мелкая помарочка от дрогнувшей в давке руки свели на нет все его титанические усилия по заполнению документа. А купить другой бланк тут же, чтобы не терять времени на поездку через полгорода в магазин, где тоже нужно отстоять очередь, он не смог, не продают. В результате день пропал впустую. На другой день он попал в не приемные часы. Потом был не приемный день. Но, в конце концов, купив новый бланк и заполнив его дома, отстояв очередь и переждав под дверью чиновничий обед, наконец дождался и сдал документы.

И такое творится, наверное, в каждом ЖЭУ. Во всяком случае его теща, пожилая женщина, живущая на территории ЖЭУ-1 восемь раз, подумать только, восемь раз(!) выстаивала огромные очереди из-за небольшой описки или непонравившегося почерка. При этом в домоуправлении почему-то образцы заполнения бланков хранили как самую большую драгоценность "за семью печатями" на внутренней стороне двери кабинета паспортистки, закрытого в неприемное время.

Неужели нельзя было продумать систему оформления документов так, чтобы не создавать бюрократической волокиты и нервотрепки?

Неужели нельзя было посадить в коридоре или свободном кабинете одного – двух человек, которые бы за 100 —200 рублей заполняли на печатной машинке необходимые бланки, как это практикуется в нотариальных конторах?

Все это можно было сделать. Но тем, в чьей власти принять подобное решение, это не нужно. Вот и давимся мы в бесконечных очередях.

Бедные мы люди...

### ИСТОРИЯ ВТОРАЯ

При оформлении документов для включения моих знакомых в ЖСК и открытия им кредитной линии, как молодой семье, возникла необходимость в небольшой, фактически минутной, консультации. За ней, один из родителей молодых, в свободное от работы время обратился в соответствующий отдел администрации района. Был день приема, и поэтому в коридоре собралось много людей. Довольно долго потолкавшись в очереди и все же не решив свой вопрос, глава семьи пришел в райисполком на следующий, уже не приемный день. В кабинете его сразу же обрубили: "Приходите завтра, когда будет прием".

3

— Но вопрос-то пустячный, просто не ясно что писать в одной из граф.

Однако в ответ он услышал все тоже: "Приходите в другой раз, вы нам мешаете работать..."

Так и ушел мой знакомый не солоно хлебавши и со словами соответствующей "благодарности" этим работникам. Причем и сейчас он "хвалит" и рекламирует их всем своим знакомым.

### ИСТОРИЯ СЛЕДУЮЩАЯ

Действующим лицом ее был друг моего сына, который по наследству от бабушки получил половину дома, и ему, девятнадцатилетнему парню, перед армией нужно было перепрописаться с квартиры родителей из одного района города в бабушкин дом в другом районе Бобруйска. Опускаю подробности и перечисление в каких очередях и к каким чиновникам он вынужден был выстоять, чтобы получить часто практически ничего не значащие справочки, подписи, печати. Скажу только, что весь процесс перепрописки занял у него все свободное от работы время, (а часто приходилось отпрашиваться и во время работы, подстраиваясь под график и режим приема столоначальниками), с середины октября и почти до конца декабря прошлого года.

Это же какие нервы надо было иметь парню, чтобы вынести такое издевательство!

Он выдержал, но при этом столько хорошего сказал о бюрократах, с которыми ему пришлось сталкиваться. Жаль только, что они этого не слышали. Хотя друзья и советовали ему лично чиновникам передать слова своей благодарности.

Были и еще истории, связанные с самыми различными учреждениями и организациями. Но, экономя место и время, опустим их, тем более, что пока коллеги утешали меня своими историями, наконец, все спорные вопросы со счетчиком были решены, и я, счастливый, получил на руки заветный наряд на его подключение специалистами БЭС, которые через три дня после этого и прикрутили два проводка от него к магистральной линии.

Правда, на этом эпопея не закончилась. Потребовалось еще две недели и несколько визитов на ул.Урицкого, чтобы наконец опечатали мне счетчик, открыли лицевой счет и выписали книжку для оплаты за потребляемую электроэнергию.

В результате весь процесс подключения счетчика от первого визита и до получения книжки занял без двух дней целый месяц.

Надо сказать, люди с опытом чиновничьего общения удивлялись тому, что я сумел всего лишь в месячный срок пройти все семь кругов империи бюрократизма. Помогло, наверное, то, что, собирая материал для этой статьи, имел возможность в любой день и время, назначенные чиновниками различных учреждений, приехать к ним "на свидание" за консультацией, справочками, актами и другими бумажками. А как быть тем, кто работает по сменам и пользуется только общественным транспортом? Они вынуждены в такой ситуации брать отпуск. А где их, отпусков, набрать столько, чтобы хватило на решение всех, даже самых мелких проблем?

И я не перегибаю. Ведь, посмотрите, бюрократическая зараза словно раковая опухоль пускает свои метастазы глубоко в общество, заражая все вокруг себя. Кто сегодня самый главный человек в больнице? Думаете, главврач или на худой конец хирург, кардиолог, терапевт? Нет. И для больных, и для посетителей больничным богом является простая санитарка. Вас может пропустить к захворавшему родственнику ординатор, а санитарка на входе запросто отменит его разрешение.

А сантехник жилищно-эксплуатационного участка. Да ему сама английская королева может позавидовать, такой властью над людьми он обладает. Ведь не секрет, что этот вечно пьяненький "гегемон" с газовым ключом вместо скипетра (оговорюсь, не все такие сантехники), держит под пятой "слабосочных интеллигентов" и немощных пенсионеров, выжимая из них деньги и литры водки за прокладочки, краники и прочую сантехническую мелочевку.

Верил, но больше, наверное, все-таки не верил этим рассказам знакомых о сантехниках, пока самому не понадобилась помощь "Афони" из родного ЖЭУ-10. Вначале, привлеченный запахом легкого заработка, он несколько раз приходил посмотреть что нужно сделать. И каждый раз цена за возможную услугу удваивалась и в геометрической прогрессии возрастала "сложность" выполнения работы. А потом – забыл дорогу к несговорчивому клиенту.

О мастерстве же этого сантехника говорит хотя бы такой факт: размер водопроводной трубы он измерял сантиметрами, а не дюймами, как это принято среди настоящих специалистов. И именно один из таких профессионалов своего дела, производственник, легко и просто решил мою сантехническую проблему.

Да что там. Каждый может не напрягаясь вспомнить десятки случаев махрового бюрократизма со стороны высоких, средних чиновников и людей при должности, в которых главным действующим лицом, современным Акакием Акакиевичем был он сам.

И при этом, вот парадокс, достойный Шекспира, вчерашний рядовой бюрократ, гонявший меня, да и любого из вас, по кабинетам и приемным дням, недовольный почерком или справочкой, придя просителем в другую организацию, сам становится таким же униженным Акакием Акакиевичем.

При всей своей однотипности и непохожести одновременно, это крона одного дерева, одна система, которая всех нас, законопослушных и одинаковых по правам и обязанностям граждан Республики Беларусь, делит на "своих" и "наших" людей. Когда "свои" без очереди, по звонку и без звонка, без каких-то второстепенных и не нужных справок, но зато повязанные жестким бюрократическим законом: сегодня ты — мне, а завтра я – тебе, или шурша "зеленью" и позвякивая "посудой заводской укупорки" легко и просто — без нервотрепки и потерянного времени — решают свои проблемы. В то время как "наших" людей бюрократические жернова перемалывают в муку.

Так неужели нет спасения от сегодняшнего зарвавшегося столоначальника и "человека с газовым ключом" и мы все до скончания века приговорены или униженно гнуть шею перед бюрократом, или трясти перед ним мошной?

4

Спасение, хотя и призрачное, есть. Это прокуратура и суд.

— В своей практике приходилось сталкиваться с инструкциями и другими нормативными документами, которые принимались какими-либо ведомствами и противоречили общему законодательству и даже Конституции, — говорит заместитель прокурора Ленинского района М.М.Воробьев. – Правда, с первого взгляда это не всегда определишь. Но по закону каждый из нас, ущемленный в своих правах, в том числе и действиями должностных лиц, имеет право обратиться за решением в вышестоящие инстанции, а потом – и в суд. И были случаи когда граждане в отстаивании своих прав поступали таким образом.

— Да, такое было, — соглашается сотрудник суда Ленинского района Валерий Павлович Кожевников. — Например, в прошлом году один из бобруйчан, оспаривая незаконное увольнение и добиваясь восстановления на работе, судился даже с горисполкомом и выиграл.

На одном из подобных процессов в начале девяностых годов я сам присутствовал в качестве репортера. Тогда в Бобруйске несколько дней слушалось беспрецедентное дело: защищая свои права, капитан выступил против министра обороны и также выиграл...

И хотя такие случаи единичны, хотя, как говорится в народе: "Одна ласточка весны не делает", но начало борьбе с бюрократами, долгой и тяжелой борьбе за свои права и достоинство, положено. Представьте только, как неуютно почувствуют себя бюрократы, если вдруг в суды пойдут на них гражданские иски за недобросовестное выполнение своих обязанностей и необоснованные отказы в решении возникающих проблем.

И еще. Хорошо известно своими благими делами общество по защите прав потребителей, существует ряд общественных организаций по защите окружающей среды, животных, памятников и тому подобного. Так может быть есть смысл кому-либо инициативному и энергичному выступить в нашем городе инициатором создания общества по защите от бюрократов. Честное слово, он без работы не останется.

О господи! И куда только меня занесло. Дернула же нелегкая ставить этот счетчик...

